*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 8 (595) 5 САКАВІКА 2003 г.

# З вясной вас, беларускія жанчыны!

## ПАВАЖАНЫЯ СЯБРЫ!

У студзені 2003 г. па рашэнні Рады БНР створаны Нацыянальны аргкамітэт па святкаванні 85-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі. У склад Аргкамітэту і Рабочай групы ўвайшлі знакамітыя дзеячы навуковай і творчай інтэлігенцыі, прадстаўнікі грамадскіх і палітычных арганізацый Беларусі, іншыя грамадзяне. Пачалася праца па падрыхтоўцы святочных мерапрыемстваў, якія адбудуцца ў краіне з 9 па 25 сакавіка 2003 года.

Улічваючы асаблівую велічнасць адзначанай падзеі для усіх беларусаў і ,існую традыцыю, прапануем разгледзець пытанне аб правядзенні святочных мерапрыемстваў у Вашых горадзе, раёне альбо вобласці. Прапануем сумесна з іншымі грамадскімі і палітычнымі арганізацыямлі стварыць рэгіянальныя рабочыя аргкамітэты для руплівай падрыхтоўкі ўсіў мерапрыемстваў.

Віншуем Вас са святамі і зычым поспеху.

**Старшыня Аргкамітэту праф. Анатоль Грыцкевіч.**

***Надыходзіць вясна. Абуджаецца прырода да абноўленага жыцця. І калі б у гэты час не было жаночага свята, яго варта было б прыдумаць.***

***Дарагія матулі, любыя, каханыя жанчыны! З Вас пачынаецца жыццё на Зямлі, з Вашага свята пачынаецца вясна.***

***Няхай жа ў Вашым доме бруіцца-звініць, не перасыхае крынічка роднага слова. Няхай мужчыны, што знаходзяцца побач з Вамі, атуляць Вас клопатам і ласкай. І няхай цеплыня Вашага сэрца напоўніць дабром і пяшчотай наш агульны дом - Беларусь.***

***Са святам, родныя!***
***27 лютага 2003 г.***

***Сакратарыят ТБМ.***



Калектыў беларускага фальклору "Жывіца" створаны ў Мазыры. Выконваць песні нашых продкаў, якія стылізаваныя пад сучасны лад пад кіраўніцтвам выпускніцы харавога аддзялення Дзяржаўнага універсітэта культуры Ірыны Мандрык будуць прафесійныя выканаўцы, якія маюць вышэйшую музычную адукацыю. Мэта "Жывіцы" - адраджэнне старажытных палескіх песень.

**На здымку:** кіраўнік ансамбля "Жывіца" Ірына Мандрык.

**Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА.**

## Пасланне Генеральнага дырэктара ЮНЭСКА
### з нагоды Міжнароднага дня роднай мовы 21 лютага 2003 г.

У гэтым годзе мы ў чацвёрты раз адзначаем Міжнародны дзень роднай мовы. Тым самым мы ўсімі сродкамі садзейнічаем, развіваем і навучаем роднай мове.

Чым выклікана такая ўвага? Гэта абумоўлена тым, што мовы, бясспрэчна, адлюстоўваюць творчы характар чалавека ва ўсёй яго шматграннасці. Будучы сродкам зносінаў, пазнання і асэнсавання, мовы з'яўляюцца таксама асновай светаўспрымання, яны забяспечваюць сувязь паміж былым, сучаснасцю і будучыняй. У выніку розных гістарычных працэсаў мовы нясуць адбітак узаемных уплываў і запазычанняў.

Родная мова ўяўляе сабой унікальную з'яву ў тым сэнсе, што аказвае ўплыў на чалавека з самага першага дня яго нараджэння і фармуе належныя толькі ёй вобразы навакольнага свету, якія ніколі не знікнуць бясследна, нягледзячы на колькасць моў, якія чалавек вывучыць у будучым. Вывучэнне чужой мовы – гэта таксама знаёмства з іншым светапоглядам, іншымі падыходамі да навакольнага свету.

Мы рады таму, што правядзенне гэтага Дня праходзіць з усё большым поспехам. У многіх краінах множацца ініцыятывы, якія скіраваны на вывучэнне і выкарыстанне багацця розных моў, што існуюць у свеце.

Адна з пачатковых школ у Косаве скарыстала гэты дзень для таго, каб распачаць ліставанне з навучэнцамі "розных школаў і народаў". У Мексіцы ў гэты дзень чыталі вершы мясцовых паэтаў, распавядалі казкі, спявалі народныя песні і ладзілі спектаклі. На Філіпінах было праведзена ўрачыстае мерапрыемства пад дэвізам. "У Сусвеце зораў кожнае слова – зорка". У Дацы, Бангладэш, быў створаны Міжнародны інстытут роднай мовы, у фундамент будынку якога першы камень быў закладзены ў 2000 г. Генеральным сакратаром Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў Кофі Ананам.

Я вельмі рады таму, што нашыя намаганні ўвянчаліся поспехам, і з задавальненнем адзначаю, што культурная і моўная разнастайнасць атрымала прызнанне, што яе сьвяткуюць ва ўсім свеце. Гэта дазваляе вырашаць многія задачы, паколькі захаванне роднай мовы садзейнічае ўстойліваму развіццю. Моўная разнастайнасць, таксама як і біяразнастайнасць, не супярэчаць адно аднаму, а знікненне той ці іншай мовы іншы раз уяўляе пагрозу для біялагічных запаведнікаў свету. Мовы з'яўляюцца часткай жывога арганізму, гэта значыць нараджаюцца, змяняюцца і часам павінны памерці, тым не менш, мы абавязаны зрабіць усё, каб, як мага, лепш захаваць іх дзеля забяспячэння каштоўнай для нас культурнай разнастайнасці. ЮНЭСКА нястомна змагаецца за шматмоўе, падтрымліваючы такую моўную палітыку, якая садзейнічае развіццю родных моў.

Я хачу пажадаць паспяховага правядзення Дня мовы і ў гэтым годзе, і каб паўсюль у свеце былі прынятыя розныя ініцыятывы, накіраваныя на абарону моў і культур свету.

***Каіціра Мацуура.***

## Да 100-годдзя першай беларускай партыі
### Беларускай сацыялістычнай грамады

Грамадскія аб'яднанні "Фонд імя братоў Луцкевічаў" і "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" выдалі калядарык да 100-годдзя першай беларускай партыі "Беларускай сацыялістычнай грамады".




На каляндарыку карціна Аляксея Марачкіна "Іван Луцкевіч". Дызайн Ігара Марачкіна.

Каляндарык можна знайсці ў сядзібе ТБМ у Менску на Румянцава, 13.

## *Віктару Сырыцу - 50*
### *Вельмішаноўны спадар Віктар!*

*Таварыства беларускай мовы шчыра віншуе Вас, гісторыка, краязнаўца, педагога, кіраўніка Баранавіцкага аддзялення Таварыства, намесніка дырэктара эканоміка-юрыдычнага тэхнікума, — з "залатым" юбілеем.*

*Мы ўсцешаны, што гэтую прыгожую дату Вы сустракаеце ў росквіце творчых сілаў, з новымі яркімі ідэямі.*

*У Вашай працоўнай і грамадскай дзейнасці напоўніцу раскрыўся выключны талент арганізатара, якім захапляюц-ца студэнты, сябры, удзельнікі шматлікіх імпрэзаў і вечарын, ініцыятарам і арганізатарам якіх Вы з'яўляецеся.*

*Няхай і надалей бруіцца крынічка творчай энергіі, а ніўка, на якой Вы так аддана шчыруеце, дае добры плён.*

*Здароўя, шчасця, дабрабыту і натхнення на шляху да лепшага жыцця нашай Бацькаўшчыны.*

*Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.*

**ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны"**
у рамках месячніка
***"Любім і кахаем па-беларуску"***

АБВЯШЧАЕ КОНКУРС НА НАЙЛЕПШЫ АПОВЕД
**"ЯК МЫ ПАЗНАЁМІЛІСЯ"**

Маладыя людзі ва ўзросце да 25 гадоў прысылаюць аповед памерам 1 друкаваны аркуш А-4, пра тое, як яны пазнаёміліся.

Мова знаёмства - беларуская.

Дата знаёмства – да 17 лютага.

Можна дасылаць успаміны нават 15-гадовай даўнасці.

Пераможцы атрымліваюць прызы – кнігі, каляндарыкі.

Супер-прыз – адпачынак пары маладых людзей на адным з курортаў Беларусі.

Аповед дасылаць да 15 сакавіка на адрас:
**ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны"**
**220005 г. Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл/факс 284-85-11.**





# Да 85-годдзя абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі

## Бібліяграфічны агляд

25 сакавіка 2003 г. спаўняецца 85 гадоў з дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). Гэтая падзея працягвае хваляваць шырокую грамадскасць Беларусі і, не ў апошнюю чаргу – навуковую грамадскасць. Кожная юбілейная дата выклікае новую хвалю публікацый. Як паказаў зроблены намі аналіз, у прад'юбілейныя і юбілейныя гады колькасць іх узрастае прыкладна ўтрая. Не выключэнне і апошнія гады.

У агляд уключаны як асобныя выданні, так і артыкулы з часопісаў, выданняў з працягам (весці, працы...), навуковых зборнікаў на беларускай і рускай мовах за **2000-2002** гады.

Віды асобных выданняў, нягледзячы на іх нешматлікасць, даволі разнастайныя – брашура, раман-дакумент, зборнік дакументаў і ўспамінаў, вучэбны дапаможнік, дысертацыя, аўтарэферат дысертацыі.

Бібліяграфічныя апісанні, цытаты прыведзены на мове арыгіналаў, (калі такія маюцца), а затым артыкулы з розных крыніц у алфавіце аўтараў або назваў (калі аўтараў няма), а ў раздзеле "Публікацыі аб асобных дзеячах БНР" – у алфавіце прозвішчаў гэтых дзеячаў.

### Абвяшчэнне БНР. Агульныя пытанні. Гістарыяграфія. Крыніцазнаўства

Абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі і дзейнасць яе ўрада прыцягвае да сябе ўвагу шматлікіх даследчыкаў, пры гэтым не сціхаюць дыскусіі, выказваюцца дыяметральна супрацылеглыя погляды.

Многія даследчыкі пішуць пра БНР з гордасцю і нават захапленнем, сцверджаючы, што на той перыяд гэта была найбольш дэмакратычная дзяржава ў Заходняй Еўропе. (Аргументацыю гэтай пазіцыі гл. у раздзеле "Унутраная палітыка БНР"). Авяшчэнне БНР – вынік самаахвярнага змагання лепшых сыноў беларускага народа за шчасце і волю.

Выказваюцца таксама думкі, што БНР з'яўлялася спробай палітычных партый ажыццявіць самавызначэнне беларускага народа на аснове буржуазнай дзяржаўнасці з панаваннем капіталістаў і памешчыкаў, з прыгнётам працоўных.

Некаторыя аўтары разглядаюць БНР і БССР як працэсы аднаго кірунку, прычым, абвяшчэнне БНР быццам бы паскорыла ўтварэнне БССР. "БНР была политическим явлением, по-своему примечательным и сыгравшим определённую роль в деле создания белорусского государства, но применять к нему термин "государство" всё же не является достаточно обоснованным" (А.Н.Резник)

Урад БНР дзейнічаў у складаных умовах нямецкай акупацыі, што перашкаджала выкананню ім усіх функцый. Практычна ўсе даследчыкі пагаджаюцца, што Германія не мела дачынення да абвяшчэння БНР, але гэта быў адзін з важкіх фактараў, які прывёў да краху Рэспублікі.

Аўтары публікацый па пытаннях гістарыяграфіі БНР, яе абвяшчэння, а таксама асобных аспектаў дзейнасці ўраду адзначаюць пэўную заканамернасцю развіцця гістарычных даследваняў.

Доўгі час асноўнымі крыніцамі ў вывучэнні БНР заставаліся нарысы і даследаванні, напісаныя самімі дзеячамі Рэспублікі (А. Луцкевічам, Я. Варонкам, А. Цвікевічам, П. Крачэўскім), публіцыстамі ў Заходняй Беларусі да 1939 г. (А. Станкевічам, В. Гадлеўскім і інш.), А таксама прадстаўнікамі пасляваенняй эміграцыі (Ст. Станкевічам, Фр. Кушалем. Я. Калубовічам, Я. Запруднікам, З. і В. Кіпелямі і інш.)

У 30-я гады выходзяць работы, у якіх мэтанакіравана праводзіцца палітыка па замоўчванню альбо фальсіфікацыі фактаў з дзейнасці ўраду БНР.

Пасля дзесяцігоддзяў замоўчвання нават самога факту існавання БНР распад СССР, першыя крокі дэмакратызацыі, раскрыццё фондаў спецсховішчаў выклікалі сапраўдны "бум" передрукаў старой публіцыстыкі і навуковых даследванняў у пачатку 90-х гадоў. Багатымі на пулікацыі па разгляданай праблеме былі 1987-88 гг. – пярэдадзень і юбілей 70-х угодкаў, 80-годдзе з дня абвяшчэння БНР. Сярод іх найбольш значнай падзеяй, справядліва сцвярджае У. Ляхоўскі, стаў выхад у свет грунтоўнага крыніцазнаўчага выдання – 1-га тома (у 2-х кнігах) **"Архіваў Беларускай Народнай Рэспублікі"** агульным аб'ёмам у 1720 старонак. Месца выдання: Вільня - Нью-Ёрк - Менск - Прага.

Пытанні абвяшчэння БНР разглядаюць:

**Альшэўская С. І., Касовіч В. Ф., Шульга А. А.** Нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва на Беларусі: (1917-1927): Вучэбны дапаможнік. Мн., БДУ, 2000. 59 с. (Раздзел "Абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі: яе сучасная ацэнка" с. 24-30.

Дапаможнік разлічаны не толькі на студэнтаў ВНУ, а і на ўсіх, хто цікавіцца айчыннай гісторыяй. Напісаны простай, даходлівай мовай.

**Далідовіч К. В.** БНР і БССР: Роздум аб пакутным шляху Беларускай дзяржаўнасці ў ХХ стагоддзі Мн., Пейто, 2002. 63 с.

**Пашкевіч Алесь.** Пляц волі: Раман-дакумент Мн., Беллітфонд, 2001. 415 с.

**Резник А. Н.** К вопросу о государственности БНР или так была ли БНР государствам? Мн., УП Технопроект, 2002. 35 с.

**Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакументах і ўспамінах.** (Зборнік). Мн., Энцыклапедыкс, 2001. 372 с.

* * *

**Асіноўскі А.** Беларусь: век XX// Архівы і справаводства: Навукова-практычны ілюстраваны часопіс. 2001. № 2 с. 108-113. с. 109 (іканаграфія). На фотаздымку групавы партрэт сябраў Народнага Сакратарыяту (Ураду БНР) 1918 год. Злева направа сядзяць Аляксандр Бурбіс, Іван Серада, Язэп Варонка, Васіль Захарка; стаяць Аркадзь Смоліч, Пётр Крачэўскі, Канстанцін Езавітаў, Антон Аўсянік, Леанард Заяц.

**Кулевіч І. Р.** Дачыненне Германіі да абвяшчэння БНР: Гістарыяграфія праблемы// Германский и славянский миры: взаимовлияние, конфликты, диалоги культур: (История, уроки, опыт и современность) Материалы международной научно-теоретической конференции 6-8 декабря 2001 г. Витебск, 2001. с. 87-90.

**Ляхоўскі Ў.** Уклаў Сяргей Шупа: Да выхаду першага тому "Архіваў Беларускай Народнай Рэспублікі" Спадчына. 2000. № 3. с. 197-213.

**Малыхіна Л. Ю.** Нараджэнне БНР: погляд здалёк// Проблемы совершенствования политической системы Беларуси на рубеже XX-XXI веков: Материалы научно-практической конференции 6-7 июня 2001 г. Брест, 2001. с. 220-234.

**Рэзнік А.М.** Самароспуск БНР: Берлінская канферэнцыя 1925 года. // Весці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Серыя гуманітарных навук. 2002 № 2. с. 62-63.

**Сташкевіч М., Кадаўбовіч. В.** У барацьбе за нацыянальную дзяржаўнасць.// Беларуская думка. 2000. № 2. с. 176-178. (Водгук на кнігу Круталевич В. А. История Беларуси: становление национальной государственности 1917-1922. Мн., 1999.)

**Тохиян Т. М.** Идея национального самоопределения и проблема образования БНР в современной белорусской историографии// Этносоциологические и конфессионные процессы в современном обществе: Материалы международной научной конференции 16-18 ноября 1999 г. Гродно, 2000. с. 346-350.

**Тохиян Т. М.** Проблема образования БНР в современной белорусской историографии // Научно-методическая конференция молодых учёных Брестского госуниверситета им. А.С.Пушкина 17-18 мая 2000 года. Сборник материалов. Брест, 2000. с. 96-98.

**Тохиян Т. М.** Проблема становления белорусской государственности (1917-1922) в современной историографии // Вестник Брестского гос. технологического университета. 2000. № 6. с. 30-33

**Траццяк А. А.** Абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі ў кантэксце Брэст-Літоўскай міжнароднай сістэмы // Весці Нацыянальнай акадэміі навук. Беларусі. Серыя гуманітарных навук. 2002. № 2 С. 56-61

### Знешнепалітычная дзейнасць БНР

Па пытанні знешнепалітычнай дзейнасці БНР таксама існуюць розныя пазіцыі.

Практычна ўсе аўтары пагаджаюцца з тым, што ўрад БНР праводзіў актыўную знешнюю палітыку. Самай важнай праблемай для яго было дабіцца міжнароднага прызнання нанава створанай Рэспублікі і, у першую чаргу, дзяржавамі – суседзямі. З гэтай мэтай накіроўваліся дыпламатычныя місіі на Ўкраіну, у Літву, Польшчу, Германію, Латвію, Эстонію, Фінляндыю, Францыю, Балгарыю, Швецыю, імкнуліся таксама зацікавіць краіны Антанты.

Не маючы дыпламатычнага досведу, пасланцы Ўраду БНР мелі шэраг іншых каштоўных якасцяў: шырокую адукаванасць, у тым ліку валоданне некалькімі замежнымі мовамі, гарачае жаданне паслужыць сваёй Радзіме, адстаяць яе незалежнасць. Аднак вынікі дзейнасці дыпламатычных прадстаўнікоў даследчыкамі ацэньваюцца па-рознаму. Адны з іх лічаць: дыпламатам удалося дабіцца таго, што некаторыя дзяржавы прызналі БНР дэ-юрэ або дэ-факта. У шэрагу дзяржаў былі створаны дыпламатычныя прадстаўніцтвы, якія праводзілі значную дзейнасць, нават зараблялі для Рэспублікі пэўныя сродкі. На думку У. Е. Снапкоўскага БНР і БССР – гэта "...дзве ідэі і дзве дыпламатыі". Калі БНР змагалася за нацыянальны суверэнітэт, то БССР – "... ахвяравала беларускай тэрыторыяй"

Іншыя аўтары катэгарычна адмаўляюць дасягненні ў знешняй палітыцы, лічачы дзейнасць большасці місій "безвыніковай", а дыпламатычныя прадстаўніцтвы – "прыватнымі канторамі" (А. М. Рэзнік).

**Павлова Т. Я.** Внешнеполитическая деятельность Белорусской Народной Республики в 1918-1920 гг.: Диссертация на соискание учёной степени кандидата исторических наук. Мн., 2001. 109 л.

**Павлова Т. Я.** Внешнеполитическая деятельность Белорусской Народной Республики в 1918-1920 гг.: автореферат диссертации на соискание учёной степени кандидата исторических наук. Мн., 2001. 20 с.

**Запруднік Янка.** Дыпляматычны пашпарт Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі. ,, Спадчына. 2000. №1. с. 81-84.

**Лебедзева В.** БНР і БССР – першы вопыт дзяржаўных стасункаў (Вясна 1918 г.) // ARChE 2001. № 5 с.394-404..

**Литвиновская Ю. И.** Первые внешнеполитические действия правительства БНР // Человек. Цивилизация. Культура.: 5-я Международная студенческая научно-теоретическая конференция Мн,. 2000. с. 70-72.

**Паўлава Т. Я.** Знешнепалітычная дзейнасць і дыпламатыя БНР у 1918 г. // Беларускі гістарычны часопіс. 2000. № 1. с.24-28.

**Резник А. Н.** Влияние германского фактора на развитие БНР как политическое явление (1918-1921 гг.)// Германский и славянский миры: взаимодействие., конфликты, диалоги культур: (История, уроки, опыт, современность) : Материалы международной научно-теоретической конференции 6-8 декабря 2000 г. Витебск. 2001. с. 84-87.

**Снапкоўскі Ул. Е.** Беларуская дзяржаўнасць і дыпламатыя. // Белорусский журнал международного права и международных отношений. 2001. №. С. 46-50.

**Тохиян Т. М.** Проблема взаимоотношений БНР и Польши в белорусской историографии. // Праблемы ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР: гісторыя і сучаснасць. Мн., 2000. с 281-288.

### Унутраная палітыка БНР

Германскія акупацыйныя ўлады перадалі ў кампетэнцыю Нацыянальнага Сакратарыяту (Урад БНР) гандаль, прамысловасць, сацыяльную апеку, асвету, культуру.

Хаця германскія акупацыйныя войскі ў многім абмяжоўвалі дзейнасць Ураду, і БНР не змагла выканаць ва ўсім аб'ёме свае функцыі, тым не менш, яна "...мела свой дзяржаўны механізм, які працаваў, як на нізавым, так і на ўрадавым узроўні" (Г.А. Космач)

Аўтары шэрагу публікацый раскрываюць даволі шматгранную ўнутраную палітыку Ўраду БНР. Другой ўстаўной граматай былі зацверджаны галоўныя пункты Канстытуцыі БНР, якая абвяшчала свабоду слова, друку, сходаў, забастовак, вольнасць сумлення, недатыкальнасць жылля, правы народаў на нацыянальную аўтаномію, раўнапраўе моваў народаў Беларусі. Была абвешчана таксама прыватная ўласнасць на зямлю. Яна перадавалася без выкупу таму, хто яе апрацоўваў. Лясы нетры, воды абвяшчаліся ўласнасцю Рэспублікі. Устанаўліваўся 8-гадзінны рабо-чы дзень.

На думку большасці аўтараў, як спецыяльна прысвечаных гэтаму пытанню публікацый, так і ў кантэксце з іншымі праблемамі, асаблівых поспехаў Урад БНР дасягнуў у галіне адукацыі і культуры.

Разумеючы, што мова з'яўляецца найбольш важным элементам культуры, яе падмуркам, менавіта на гэтым аспекце былі сканцэнтраваны намаганні. Быў наладжаны дзяржаўны статус беларускай мове, яна аб'яўлялася абавязковай мовай Рэспублікі.

Важным кірункам ва ўнутранай палітыцы было станаўленне беларускай нацыянальнай школы. З мэтай падрыхтоўкі нацыянальных кадраў настаўнікаў адкрываліся настаўніцкія семінарыі, а для дзейных настаўнікаў – курсы беларусазнаўства. У красавіку 1918 г. прымаецца рашэнне аб адкрыцці нацыянальнага універсітэта ствараюцца школьныя падручнікі. Да работы ў сферы адукацыі і культуры прыцягваюцца вядомыя вучоныя – Я. Карскі апекаваў сярэднія школы, доктар В. Іваноўскі – прафесійныя, а Б. Тарашкевіч – народныя пачатковыя.

За няпоўны 1918 г. выходзілі на беларускай мове 6 газет і 3 часопісы, працавалі 11 выдавецтваў, якія выдалі 35 беларускіх кніг.

**Беларуская нацыянальная ідэя і БНР** // Абажур 2002 № 11-18 с. 57-59.

**Герасимова Инна.** Белорусская проблема и еврейство в деятельности Исаака Лурье – руководителя Белорусского пресс-бюро в правительстве БНР в 1920-22 гг.// Беларусь у XX стагоддзі. Мн., Водолей. Вып. 1. с. 41-54.

**Герасімава Іна.** Ідэя габрэйскай аўтаноміі і БНР. // Спадчына. 2000 № 5-6 с. 28-45.

**Дзядзюля П. В.** Дзейнасць Урада БНР па фарміраванні сістэмы нацыянальнай адукацыі і культуры. // Труды белорусского технологического университета. Серия 5 Политология, философия, история, филология. 2000. Вып. 8 с.11-15.

**Космач Г. А.** Германский фактор в поллитике БНР в 1918 году. // Германский и славянский миры: взаимодействие, конфликты, диалоги культур: (История, уроки, опыт, современность). Материалы международной научно-теоретической конференции 6-7 декабря 2001 г. Витебск. 2001. с. 74-84.

**Мазец В. Г.** Асветніцкая дзейнасць Урада Беларускай Народнай Рэспублікі // Беларуская асвета: вопыт тысячагоддзя: Матэрыялы 11 Міжнароднага кангрэса 17-19 мая 2000 года. У 3-х кн. Мн., 2000 Кн.1 С. 148-152.

*(Заканчэнне на ст. 4.)*

